



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

17 ліпеня 2020 года №29 (1316)

18+


# Галерэю ў двары стварылі ў Маладзечне

старонка 20

Ірына Тархан з дачкой Арынай каля адной з карцін ля дзвярэй пад'езда. Фота Настассі УТКІНАЙ.

## Вышыўка – гэта як мова, толькі выказаная ніткай

старонка 5

## «Выручка ўпала напалову». Як каронавірус змяніў рынак

старонка 3

## Выпускніца з Маладзечаншчыны набрала сто балаў на ЦТ па беларускай мове

старонка 2

## Хто стаў кандыдатам у прэзідэнты Беларусі

старонка 8



ISSN 1991–7155




Адсканюйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# «Хвалявалася так, што нават спаць не магла»

## Выпускніца Гарадзілаўскай сярэдняй школы атрымала сто балаў на ЦТ па беларускай мове

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета сто балаў на ЦТ па беларускай мове набрала 78 чалавек. Сярод іх – выпускніца Гарадзілаўскай сярэдняй школы, Ганна Бернацкая.**

Дзяўчына расказала карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» пра тое, як рыхтавалася і атрымала высокі вынік.

### Беларуская мова – больш простая і зразумелая

– Для мяне беларуская мова заўсёды была куды больш простая і зразумелая ў параўнанні з рускай. Таму я нават не думала, якую мову здаваць. Дакладна ведала – гэта будзе беларуская, – тлумачыць Ганна свой выбар.

Па словах дзяўчыны, да ЦТ яна рыхтавалася два гады – падчас вучобы ў дзясятым і адзінаццатым класах. Да рэпетытара не звярталася. Займалася толькі са сваёй настаўніцай беларускай мовы і літаратуры **Галінай Якавіцкай**. Рашала шмат тэстаў, займалася па тэматычных зборніках, паўтарала правілы.



**– Нядрэнныя вынікі на рэпетыцыйным тэсціраванні: на першым і трэцім этапах – па 87 балаў, на другім – 90, – прыгадвае дзяўчына.**

### Як здаюць ЦТ у пандэмію

Кажа, што з беларускай мовай сябравала заўсёды. З пятага класа ўдзельнічала ў рэспубліканскім конкурсе «Буслік», дзе былі пэўныя поспехі. У прадметнай алімпіядзе таксама ўдзельнічала, але не праходзіла далей першых этапаў.

**Перад ЦТ абітурыентка хвалявалася так, што не магла нават спаць. Настройвала сябе на тое, што ўсё павінна быць добра.**

– На рашэнне тэста ў мяне пайшло хвілін сорак. Яшчэ дваццаць – на пераправерку і ўнясенне вынікаў у бланк. Як заўсёды, частка «В» падалася лягчэйшай за частку «А», – прыгадвае Аня дзень ЦТ.

Пандэмія ўнесла свае змены ў правядзенне ЦТ. Па словах Ані, у аўдыторыі было не так шмат чалавек, як звычайна. Людзі сядзелі за партамі ў шахматным парадку, рэкамендавалі надзяваць маску.

Рытуалаў накшталт кніжкі пад падушку ці пяць капеек у чаравік у дзяўчыны няма. Затое ёсць моцная падтрымка сям'і.

### Спадзявалася на дзевяноста балаў

Пасля напісання тэста спадзявалася, што павінна быць балаў дзевяноста. На сто не разлічвала. Таму, калі зайшла на сайт Рэспубліканскага кантролю ведаў, адразу не паверыла вачам:

– Пачала гартаць старонку туды-сюды. Не магла зразумець, ці мае гэта балы. Потым пачала правяраць адказы, і ўсе аказаліся правільнымі. Была ў шоку, – дзяліцца суразмоўца.



Фота з архіва гераіні.

Ганна Бернацкая – выпускніца.

Першая пра поспех дзяўчыны даведалася яе сям'я, потым – настаўніца беларускай мовы і літаратуры.

### Як здаць? – Вучыць і верыць у сябе

Ганна прызнаецца, што ў апошнія школьныя гады ёй на ўсё хапала часу. Былі не толькі падручнікі, а сустрэчы з сябрамі, музычная школа, выступленні на школьнай сцэне, чытанне для душы.

Будучай спецыяльнасцю дзяўчына вырашыла абраць медыцыну. Канкрэтную ўстанову абярэ тады, калі будуць вядомыя ўсе вынікі ЦТ. Кажа, медыцына блізкая ёй. У ёй працавалі і працуюць родныя.

На пытанне, як здаць ЦТ на сто балаў, адказ у Ганны такі: вучыць і верыць у сябе.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




Фота Настассі УТКІНАЙ.

На маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства.

# «Выручка ўпала напалову». Як каронавірус змяніў рынак

**Некалькі апошніх месяцаў змянілі многія сферы праз каронавірус. Як пандэмія адбілася на рынку райспажыўтаварыства? Пра гэта мы запыталіся ў прадаўцоў у суботні базарны дзень.**

Большасць наведнікаў на базары была без масак. Каля некаторых павільёнаў збіралася чарга, а некаторыя гандлёвыя месцы былі пустыя. Прадаўцы не хацелі называцца, а вось ананімна дзяліліся, як у іх складваецца гандаль апошнія месяцы. І сітуацыя ва ўсіх розная, усё залежыць ад тавару.

## Па мясе і рыбе розніцы не адчулі

У павільёне з сырым мясам адзначылі, што пакупнікоў асабліва менш не стала. На думку прадаўца, справа ў тым, што тут якаснае мяса. Цэны на прадукцыю не мянялі, а сярод пакупнікоў шмат пастаянных.

Жывога карпа з Маладзечаншчыны прадаюць па 5,20 і 4,50 рубля. Кажуць, што за выхадны збіраецца каля 30 пакупнікоў, пераважна купляюць па адной рыбіне. Прыкладна такія ж продажы былі і да эпідэміі каронавіруса.

## Вінаваты не толькі каронавірус

У павільёне №25 аддзела садавіны і гароднiны часта збіраюцца чэргі. Прадавец расказвае, што за апошнія месяцы пакупнікоў стала прыходзіць менш на працэнтаў 20. Некаторыя радзей прыходзяць, але бяруць адразу больш тавараў. Выручка зменшылася, але абвінавачваць у гэтым адзін каронавірус не бяруцца. Мяркуюць, што частка пакупнікоў паступова пераходзіць у магазіны. Так адно накладваецца на другое, а ў выніку базар губляе пакупнікоў.

У аддзеле сельскагаспадарчай прадукцыі, дзе можна набыць дамашняе малако і малочныя тавары, таксама заўважылі спад. Сталі радзей прыходзіць пакупнікі ва ўзросце. Хтосьці з іх адпраўляе на закупы дзяцей. А яшчэ летам спад з-за лецішчаў. Некаторыя людзі ва ўзросце цёплую частку года праводзяць у вясковых дамах, а як пахаладае – едуць зімаваць да дзяцей у горад.

У сектары адзення і прамысловых тавараў нам сказалі, што няма ні выручкі, ні пакупнікоў. Калі яшчэ ў выходныя трохі людзей ёсць, то ў будні хоць на працу не выходзь. Але звязваюць гэта не столькі са страхам захварэць, колькі з эканамічным становішчам.

> **– У людзей няма грошай, вельмі нізкія зарплаты. Эканоміка пагоршылася ў тым ліку з-за каранавіруса.**

Гандлёвае месца з бакалеяй і бытавымі таварамі з Польшчы і Расіі таксама прыцягвае менш пакупнікоў. Тут у асноўным бяруць каву, чай і спецыі. Адзначаюць, што ў будныя дні з'яўляюцца лічаныя пакупнікі.

На рынку райспажыўтаварыства акрамя прадуктаў і адзення можна набыць тавары для дому і рамонту. Гандляр павільёна з фарбамі адзначае, што сёлета найгоршае лета за апошнія пяць год яго працы.

– Выручка ўпала напалову. Пакупнікоў стала менш напалову. Прытым, што цэны паднялі на 10-15%. Бляшанка фарбы вагой 1,8 кілаграма летась каштавала 10 рублёў, у гэтым годзе 11,50. Цяпер хоць крыху пачалі займацца рамонтамі, бяруць матэрыялы. Многія баяцца траціць грошы, некаторыя губляюць працу. Гэты спад не з-за самога каронавіруса, а з-за эканамічнай сітуацыі, якая ўзнікла з-за каронавіруса.



Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

**ЛІЧБА НУМАРА**

**74,5** года

чакаемая працягласць жыцця насельніцтва Беларусі ў 2019 годзе

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 9.03 | 16.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4399 | **2.4016** |
| Еўра | 2.7547 | **2.7445** |
| Злоты, 10 | 6.1458 | **6.1372** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4301 | **3.3919** |
| Грыўня, 100 | 9.0417 | **8.8522** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **8.03** | **15.03** |
| Еўра | 2.7000/2.7900 | **2.7000/2.8000** |
| Долар ЗША | 2.4000/2.4800 | **2.3700/2.4500** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 8.03 | 15.03 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,80 | **20,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,75** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,68 | **7,60** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **6,30** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 10,50 | **10,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,90 | **16,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,20 | **2,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,50** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 0,80 | **1,30** |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | **0,90** |
| Буракі, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 1,90 | **1,80** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **3,20** |
| Перац, 1 кг | 3,50 | **3,30** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,30 | **1,00** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **6,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,30 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,00 | **2,80** |
| Вінаград, 1 кг | 7,50 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 5,00 | **5,30** |
| Дыня, 1 кг | 3,50 | **2,50** |
| Кавун, 1 кг | 2,00 | **1,50** |
| Ківі, 1 кг | 7,90 | **7,90** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,90 | **4,90** |
| Персікі, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Чарэшні, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 4,00 | **4,50** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Мясцовыя расказваюць міліцыі, што іх аднавяскоўцы гоняць самагон

МАЛАДЗЕЧНА

Першы такі выпадак адбыўся ў чэрвені ў Вязаўцы. Другі – 6 ліпеня ў Насілаве.

У Вязаўцы мясцовыя падказалі ўчастковаму інспектару, што аднавясковец гоніць самагон. У выніку ў мужчыны знайшлі 144 літры прадукту і больш за сем тон брагі.

У Насілаве ж дзякуючы грамадзянам знайшлі 740 літраў самагоннай брагі, зробленай на аснове цукру. Па папярэдняй інфармацыі, каб зрабіць вытворчасць незаўважанай, фігурант выкарыстоўваў электрычнасць.

Практыка паказвае, што апошнім часам, каб атрымаць максімальны прыбытак, самагоншчыкі разводзяць вадой тэхнічны спірт, а для паху дадаюць крыху самагону.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Дзверы аўтобуса заціснулі руку. ДАІ шукае сведак здарэння

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 11 чэрвеня каля 17 гадзін у аўтобусе №7, на прыпынку «Сярэдняя школа №9».

85-гадовая маладзечанка выходзіла з аўтобуса. Калі дзверы зачыняліся, яны заціснулі ёй руку. Калі ж кіроўца адчыніў дзверы, жанчына ўпала на тратуар. Падняцца ёй дапамог невядомы мужчына, паведаміла інспектар па адміністрацыйнай практыцы аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС лейтэнант міліцыі **Дыяна Галуза**.

ДАІ просіць сведак і відавочцаў дадзенага здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: Маладзечна, вуліца Тамары Дудко, 1– 18 або па тэлефонах: **(8-0176) 74-53-40, 74-53-43** ці **102**.

**Аддзел інфармацыі.**

## За некалькі разоў вынес з крамы гарэлку, віскі і рагу

ВІЛЕЙКА

Здарэнні адбыліся 3 ліпеня ў краме «Дабранэм». Фігурант – мясцовы жыхар, які нідзе не працуе.

Як расказаў карэспандэнту намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**, каля 11 гадзін мужчына прыйшоў у краму, што на вуліцы Гагарына. Прайшоўся па гандлёвай зале, узяў з вітрыны дзве бутэлькі гарэлкі і схаваў іх пад вопратку. І так выйшаў з крамы.

Прыкладна праз гадзіну вярнуўся. І такім самым чынам вынес з крамы бутэльку віскі і яшчэ адну бутэльку гарэлкі.

Каля 15 гадзін вярнуўся ў трэці раз. Узяў яшчэ бутэльку віскі і кілаграм рагу «Класічнага». На гэты раз работнікі крамы заўважылі падазронага пакупніка і затрымалі яго на выхадзе.

Па словах Мікалая Мягкова, фігурант у 2019 годзе сем разоў прыцягваўся да адказнасці за дробныя крадзяжы. Па рашэнні суда Вілейскага раёна, мужчына 15 сутак правядзе ў ізалятары часовага ўтрымання.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Жанчыне так спадабаўся сабака, што яна ўкрала яго

СМАРГОНЬ

Гаспадыня сабакі жыве ў прыватным доме на вуліцы Сонечнай. Раніцай яна выпусціла гадаванца пароды пагуляць па ўласным участку. У гэты час міма праходзіла 26-гадовая жанчына. Яна ўбачыла сабаку і забрала яго, паведамляе УУС Гродна. Прычыненую шкоду ацанілі ў 450 рублёў.

Гаспадыня заўважыла знікненне гадаванца і звярнулася ў міліцыю. Супрацоўнікі Смаргонскага РАУС змаглі ўстанавіць месцазнаходжанне выкрадзенага сабакі, а таксама асобу, якая скрала чыхуахуа.

Яе дзеяннем далі прававую ацэнку, свае паводзіны жанчына патлумачыла тым, што сабака ёй проста спадабаўся.

**Паводле УУС Гродна.**

## Аўтаінспектары дапамаглі мінчанцы замяніць кола ў аўтамабілі

ВАЛОЖЫН

На трасе Мінск-Гродна супрацоўнікі Валожынскай ДАІ дапамаглі 21-гадовай дзяўчыне-кіроўцы.

Яна разам з сябрамі накіроўвалася ў Крэва. На шляху ў машыне прабіла кола. І аўтамабіль спыніўся на ўзбочыне.

Самастойна замяніць кола мінчанка не змагла, дапамаглі праваахоўнікі. Супрацоўнікі ДАІ дапамаглі замяніць кола і суправадзілі кіроўцу на бліжэйшую СТА.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



Фота забяспечанае АДАІ Маладзечанскага РАУС.

У Дамашах пасля здарэння.

# У Дамашах сутыкнуліся аўтамабіль і матацыкл

## Пасажырка матацыкла – у бальніцы

МАЛАДЗЕЧНА

**ДТЗ адбылося 12 ліпеня, каля паловы сёмай вечара.**

Па папярэдняй інфармацыі, 25-гадовая кіроўца на «Нісане-Прымеры» разварочвалася на вуліцы Савецкай, каля дома №1 у Дамашах. Выехаўшы на сустрэчную паласу, сутыкнулася з матацыклам «Хонда». Матацыкл рухаўся ў спадарожным з аўтамабілем кірунку і выехаў на сустрэчку.

За рулём матацыкла быў 24-гадовы жыхар Маладзечанскага раёна з пасажыркай. Пасажыркай аказалася жонка кіроўцы. Па папярэдняй інфармацыі, яе з цяжкімі цялеснымі пашкоджаннямі забралі ў хірургічнае аддзяленне Маладзечанскай ЦРБ.

Абодва кіроўцы не пацярпелі. Яны былі цвярозыя. Кіроўца аўтамабіля – прышпіленая рамянём. Кіроўца і пасажырка матацыкла – у шлемах. Матэрыялы перадалі ў Маладзечанскі РАСК, паведаміла інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечанскага РАУС **Дыяна Галуза**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчына выклікаў міліцыю на будаўнікоў і атрымаў штраф

ВІЛЕЙКА

11 ліпеня 40-гадовы жыхар Вілейкі, што жыве ў доме па вуліцы Гагарына, патэлефанаваў на нумар 102. Мужчына прасіў міліцыянераў хутчэй прыехаць да яго дома. Казаў, што тут робяць рамонт п'яныя будаўнікі.

> Калі міліцыянеры прыбылі на месца, убачылі, што ўсё не так.

– Мужчына, які тэлефанаваў, сам быў нецвярозы. Таму ён увесь час перашкаджаў будаўнічай брыгадзе, якая рабіла капітальны рамонт дома: выказваў будаўнікам прэтэнзіі, лаяўся і абражаў іх, – расказаў карэспандэнту намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

Канцэнтрацыя этылавага спірту ў выдыханым паветры ў затрыманага склала больш за адну праміле.

Па рашэнні суда грамадзяніна прызналі вінаватым у правапарушэнні, прадугледжаным артыкулам 17.1 КаАП Рэспублікі Беларусь – дробнае хуліганства. Парушальніка чакае штраф – чатыры базавыя велічыні, а гэта 108 рублёў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Гарэла лазня ў Людвінове

ВІЛЕЙКА

Пра пажар выратавальнікам паведамілі 11 ліпеня ў 16:49, расказала карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Анастасія Швайбовіч**.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, убачылі, што з-пад даху лазні ідзе дым. Агонь пашкодзіў сцены парылкі, закурыў маёмасць у лазні. Прычыну пажару высвятляюць. Людзі не пацярпелі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Хлопчык катаўся на ровары і знік

МАЛАДЗЕЧНА

Уначы 11 ліпеня ў пошукава-выратавальны атрад «Анёл» паступіла паведамленне, што ў садовым таварыстве ў Маладзечанскім раёне знік 11-гадовы хлопчык.

Ён з бацькамі адпачываў на лецішчы. Прыкладна ў дзевяць вечара дзіця паехала катацца на ровары і знікла.

– На месца выехала каля 20 валанцёраў з Мінска і Маладзечна, разам з намі дзіця шукалі міліцыя і выратавальнікі, – кажа **Сяргей Коўган**, камандзір «Анёла». – Спецыялісты сталі даследаваць тэрыторыю.

> Прыкладна ў васьмі кіламетрах ад лецішча, на прыпынку, валанцёры ўбачылі ровар хлопчыка. Паехалі ўздоўж дарогі і на іншым прыпынку заўважылі зніклага. Ён спаў.

– У 2:13 ночы яго знайшлі. Ад дачы ён адышоў на 15 кіламетраў, – скажа Сяргей Коўган. Калі яго пасадзілі ў машыну, яго калаціла ад холаду. Хлопчыка адвезлі бацькам.

Калі дзіця знайшлі, хлопчык прызнаўся: яму не дазволілі пагуляць з тэлефонам і ён вырашыў паехаць на ровары дамоў у Мінск.

**Паводле tut.by.**


Фота Алены ЛЯШКЕВІЧ.

Гуканне вясны ў Вязынцы сёлета.

# Вышыванка – як мова, толькі выказаная ніткай

**Расійскія прапагандысцкія тэксты дабраліся і да беларускай вышыванкі.**

Арцём Агафонаў размясціў аўтарскую калонку на рэсурсе politnavigator.net пад назвай «Белоруссия. Незалежная мешанина». У гэтай публікацыі аўтар спрабуе данесці, што як бы беларусы ні спрабавалі прыдумваць самабытныя культурныя сімвалы, гэта атрымліваецца кепска, таму што і самабытнасці няма.

Вось некалькі цытат: «Теперь его дополняет День Вышиванки. Конечно, до украинского размаха далеко, но мероприятия проводятся, а орнамент стараются впихнуть куда угодно – от товарных знаков и упаковки до тротуарной плитки и стен зданий. Пресловутая ретро-рубаха символизирует то же самое – подчеркивает белорусскую самобытность и обособленность от русских», «Самое смешное, что по факту никаким символом белорусской самобытности вышиванка быть не может. Вышитые рубахи носили многие славяне, а самого слова «вышиванка» в белорусском языке вообще никогда не было. Налицо прямое обезьянничание и копирование».

### Беларусь унікальная для этнаграфіі

Пракаментаваць гэтыя выказванні мы папрасілі майстра па народных строях, мастака, сябра Студэнцкага этнаграфічнага таварыства **Настассю Глушко**.

Майстар адзначыла, што, сапраўды, само слова «вышыванка» ў беларускім асяродку з'явілася нядаўна, і прыйшло з украінскай мовы. Гэты наватвор актыўна падхапілі і пачалі ўжываць беларусы.

> Але хаця само слова для беларусаў новае, з'ява, якую яно называе, існавала на нашых землях стагоддзямі.

Жанчына каля 20 год вывучае этнаграфію і народны касцюм. Таму выдатна ведае, што вышыўка адзення – гэта традыцыйны элемент для шматлікіх культур. Падабенствы можна знайсці паміж украінскай і егіпецкай вышыўкамі, паміж беларускай і індзейцаў Паўночнай Амерыкі. Рэч у тым, што сімвалы і знакі, якія зашыфравалі ў вышыўцы, створаныя настолькі даўно, што з'яўляюцца ўніверсальнымі.

Беларускі сімвал агню і мужчынскага пачатку «зорка» сустракаецца і ў індзейцаў. Спецыяліст падкрэслівае, што зашыфраваныя ў вышыўку сімвалы сустракаюцца ў вельмі многіх народах, і сэнс сімвалаў звычайна блізкі або нават аднолькавы.

На беларускай зямлі рамантызацыя вышыўкі адбылася ў другой палове 19 стагоддзя. Гараджане і заможныя людзі хутка перaймалі іншаземныя навінкі. У той час як сяляне стагоддзямі збераглі і перадавалі духоўную спадчыну, у тым ліку сімвалізм вышыўкі. Настасся ўпэўненая, што калі побач размясціць арыгінальныя вышыўкі аднаго перыяду, розніцу ўбачыць не толькі яна як майстар, але могуць заўважыць і неабазнаныя ў тэме людзі. Больш за тое, свае адметнасці мелі нават вышыўкі кожнага з рэгіёнаў Беларусі. Палеская вышыўка будзе блізкая да паўночнаўкраінскай, але ўсё роўна пры разглядванні дэталяў розніца відавочная.

Калі самі сімвалы ўніверсальныя, то падача вышыўкі адметная. Гэта паказваецца ў дэталях, элементах, колерах.

> У традыцыйнай беларускай вышыўцы нітка чырвонага і чорнага колеру, часам сустракаецца чырвоная і сіняя. Прычым чырвоны колер з халодным падтонам, які вельмі гарманічна выглядае на шараватым лёне.

– Гэта выглядае элегантна і шыкоўна з мастацкага пункту гледжання, – мяркуе мастак. – Вельмі густоўнае і стыльнае спалучэнне. Казаць, што вышыўку прыдумалі – правакацыя. А вось вяртанне зацікаўленасці да традыцыйнай вышыўкі сапраўды ёсць. Калі я выходзіла 17 год таму замуж у самаробным строі, то была такая адна. Цяпер жа я набіраю групу вучаніц, а ахвотных прыходзіць на некалькі груп. Маладыя дзяўчаты хочуць вучыцца і самі сабе робяць строі. Гэта перамога.

### Строй у кожнага – гэта норма

У ідэале народны строй павінны быць у кожнага беларуса, таму што гэта традыцыйнае святочнае адзенне. Шведскі кароль наведвае прыёмы ў традыцыйным шведскім строі, як і многія кіраўнікі дзяржаў. Гэта тое, да чаго імкнецца Студэнцкае этнаграфічнае таварыства – данесці думку, што строй – святочнае адзенне.

– Тым больш, што для беларусаў існуе багатая спадчына, – адзначае Глушко. – Беларусы – унікальны еўрапейскі народ з этнаграфічнага пункту гледжання. У нас яшчэ жывыя ткачы, спявачкі, якія нясуць традыцыйную культуру. А нам так пашчасціла, што мы можам пабачыць гэта на свае вочы і дакрануцца да гэтага трапяткога агмяню.

### Вышыўка – як мова

Паэт з Маладзечаншчыны **Тамара Бярэзіна** захапляецца вышыўкай і можа навучыць разбірацца ў сімвалах іншых.

– Безумоўна, беларуская вышыўка самабытная, – адзначае яна. – Гэта як мова, толькі выказаная ніткай, рукамі, сэрцам. Адмаўляць гэта – казаць паклёп.

Жанчына адзначае, што вышыўкай можна выказаць пажаданне, а адна жанчына вышыла ўсё сваё жыццё. Цяперашні ўздым зацікаўленасці да вышыванкі тлумачыцца тым, што гісторыя рухаецца па спіралі. Беларусы хочуць вярнуць пачуццё прыналежнасці да тэрыторыі, краіны, народа. А традыцыйная вышыўка выдатна дапамагае адчуваць сябе беларусам. Таму што разуменне гэтых сімвалаў збіралі нашы продкі пакаленне за пакаленнем, таму гэта ў нас, таму нас да гэтага цягне.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Сітраэн-Ксантыя, 1998 г.в., універсал, 1,8, газ-бензін, тэхагляд да 04.2021. Новая гума. Тэрмінова. Торг. Т. (8-029) 3655076.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., ставілі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі да Аўдзі-80, 1985 г.в. Т. (8-029) 5024571.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724, (8-033) 3631161.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на ходу для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Матацыкл стары К-750, Ява, Мінск, Іж на запчасткі. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• Кватэра ў Вілейцы, нядорага. Цэнтральнае ацяпленне, вада, тэлефон, газ балонны. Т. (8-044) 7753666.

• 1,5-пакаёвая кватэра ў п. Беразінскае Маладзечанскага раёна, 21,5 тыс. рублёў. Т. (8-0176) 725959, (8-029) 2799029.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Першамайскай. Т. (8-029) 8600657.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Мядзеле. Т. (8-029) 3523618.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у вёсцы. Абкладзены цэглай. Гараж, хлеўчык блочныя. Вада, каналізацыя, 20 сотак. Электрычка, аўтамагістраль 2 км. Т. (8-029) 8773238.*

• Дом недабудаваны ў г. Астравец. Побач лес і возера. Т. (8-029) 5322793.*

• Прадам участак у Чысці, 17 сотак. Газ, вада, каналізацыя, святло падведзеныя. На ўчастку зруб 6х8 з кругляка, пад дахам. Т. (8-044) 4658667, у Маладзечне 706357.*

### ЗДАМ

• Гараж 6х9 м у ГК №33 па вул. Міру ў Маладзечне. Т. (8-029) 5753932.*

• Пакой у Маладзечне. Т. (8-029) 5019550.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселле, юбілей, карпаратыў. Музычнае афармленне. Вядучы. ІП Язневіч Л.М. УНП 692245902 Т. (8-044) 5945440.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджы з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ДЭМАНТАЖ**. ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292601 Т. (8-029) 5417847, (8-029) 3057579.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Работа са шклом (стэкольные работы). Дастаўка, нарэзка, устаноўка шкла і люстэрак. Т.(8-029) 9512185, (8-033) 3293993.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-40 з прычэпам. Т. (8-029) 8658044, МТС.*

**Бытавая тэхніка**

• Трымер здаю ў пракат або прадам. Т. (8-029) 5322793.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Каза дойная 2-м акотам, козлік-вытворца зааненскай пароды, 2 гады, прыгажун. Т. (8-029) 5737741, (8-01771) 22380.

• Цялушка, 1,5 года. Т. (8-029) 8426602, МТС.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), падагравальнік для сумесі Philips Avent (40 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Дровы, дошкі. Т. (8-029) 6106061.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

• Веласіпед STELS, 7 хуткасцяў, 220 рублёў. Газавы балон, 90 рублёў. Т. (8-033) 3144173.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Лопасці ад аўтамабільнага вентылятара сістэмы ахалоджання. Т. (8-029) 5019550.*

### ІНШАЕ

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Аддам бясплатна. Кацяняты (хлопчык і дзяўчынка) шукаюць новы дом. Чорнага колеру з белымі лапкамі і грудкамі. Здаровыя і актыўныя. Латком карыстаюцца. Цэпер ім 2 месяцы. Т./вайбер (+37533) 3473377.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |




# Бяспека пры карыстанні газам у быце

**У наш час газ з'яўляецца незаменным памочнікам у кожным доме. Цяжка ўявіць, як бы мы цяпер абыходзіліся ў быце без газу. Ён ёсць практычна ў кожным доме.**

Аднак, на жаль, некаторыя гаспадары настолькі прывыкаюць да гэтага дабра цывілізацыі, што часам забываюць, што гэта яшчэ і крыніца павышанай небяспекі. Вынікам падобнай бестурботнасці становяцца надзвычайныя здарэнні, якія маюць самыя сур'ёзныя наступствы. Штогод у Беларусі адбываюцца няшчасныя выпадкі, у выніку якіх церпяць людзі, часам са смяротным – дам. Трагічная іронія ў тым, што, каб жыхары захоўвалі самыя элементарныя правілы, выкладзеныя ў кіраўніцтве па эксплуатацыі газавага абсталявання і ў Правілах карыстання газам у быце, гэта дапамагло б пазбегнуць падобных здарэнняў і няшчасных выпадкаў.

**Ад пачатку 2020 года ў Маладзечне і Маладзечанскім раёне адбылося 21 здарэнне, звязанае з пакінутым без нагляду газавыкарыстальным абсталяваннем, якое працавала (загазаванасць памяшкання, задымленне з прычыны гарэння ежы на газавай пліце).**

Так, 1 красавіка ў спецыялізаванае падраздзяленне ВУ «Маладзечнагаз» паступіла паведамленне аб паху газу па адрасе: г. Маладзечна, вул. Сухая, д.14. Аварыйная брыгада, якая прыбыла, выявіла канцэнтрацыю газу ў памяшканні кухні аднаго з кватэр. Пасля гатавання ежы карыстальнік зачыніў кран толькі на газавай пліце, не перакрыўшы кран на газаправодзе. З-за няспраўнага крана на пліце газ працягваў выходзіць у памяшканне кухні.

**Па шчаслівай выпадковасці і дзякуючы аператыўнаму рэагаванню аварыйнай газавай службы ў гэтых здарэннях ніхто не пацярпеў.**

Прычынамі такіх сітуацый, як правіла, з'яўляецца сукупнасць наступных фактараў:

– пакінутая без нагляду газавая пліта, якая працуе, і як вынік залітыя гарэлкі пліты ежай, якая гатавалася, з далейшым выхадам газу ў памяшканне;

– гатаванне ежы на газавай пліце ў стомленым стане, у стане алкагольнага ап'янення;

– антысанітарны стан кухні і невыкананне элементарных мер, якія пазначаныя ў кіраўніцтве па эксплуатацыі, у частцы догляду, чысткі элементаў газавыкарыстальнага абсталявання;

– ігнараванне некаторымі карыстальнікамі патрабавання зачыняць кран на газаправодзе або вентыль на балоне перад газавыкарыстальным абсталяваннем;

– закрытая фортачка і няспраўная вентыляцыя ў памяшканні кухні, у выніку чаго адбываецца няпоўнае згаранне газу і магчымае атручэнне чалавека і дамашніх жывёл прадуктамі гарэння;

– карыстанне газавым абсталяваннем па заканчэнні нарматыўнага тэрміну эксплуатацыі, названага ў кіраўніцтве па эксплуатацыі, або звыш 20 гадоў;

– самавольнае падключэнне, рамонт газавыкарыстальнага абсталявання і невыкананне патрабаванняў, выкладзеных у кіраўніцтве па эксплуатацыі на газавыя прыборы;

– праверка магчымай уцечкі газу адкрытым агнём;

– выкарыстанне газавых пліт для абагрэву памяшкання, сушкі бялізны і да т.п.

**НАГАДВАЕМ: газ у сумесі з паветрам выбухованебяспечны.**

Адчуўшы ПАХ ГАЗУ ў памяшканні, НЕАБХОДНА:

● неадкладна спыніць карыстанне газавымі прыборамі;

● закрыць усе краны на газавых прыборах і краны перад прыборамі або зачыніць вентыль на балоне (пры наяўнасці газабалоннай установкі);

● адчыніць вокны для скразнога праветрывання памяшкання;

● выдаліць з загазаванага памяшкання людзей, дамашніх жывёл;

● паведаміць (не ў загазаваным памяшканні) у спецыялізаванае падраздзяленне газазабеспячэнчай арганізацыі па тэл. **104**. Да прыезду аварыйнай брыгады забараняецца карыстацца адкрытым агнём, курыць, уключаць і выключаць электрапрыборы, электраасвятленне, а таксама дапускаць старонніх людзей у загазаванае памяшканне.

**ГАЗ ПАМЫЛАК НЕ ДАРУЕ!**

Паважаныя абаненты, не падвяргайце сваё жыццё і жыццё сваіх родных небяспекі.

**ВУ «Маладзечнагаз».**

УНП 100008077

## ПРАВИЛА проведения рекламной игры «Летний презент от Элен Стайл»

**Настоящие Правила проведения рекламной игры «Летний презент от Элен Стайл» разработаны в соответствии с Положением о проведении рекламных игр на территории Республики Беларусь, утвержденным Указом Президента РБ от 30.01.2003г. № 51.**

Рекламная игра «Летний презент от Элен Стайл» направлена на стимулирование реализации услуг парикмахерской «Элен Стайл», Республика Беларусь, Минская обл., г.Молодечно, ул.Виленская, 9, пом.1.

**1. Общие положения**

1.1. Сведения об организаторе рекламной игры.

Организатором рекламной игры является Индивидуальный предприниматель Козловский Дмитрий Анатольевич УНП 692244592

Юридический адрес: Республика Беларусь, 222310, Минская обл., г.Молодечно, ул.Будавников, д.13 «Б», кв.39.

1.2. Наименование рекламной игры – рекламная игра «Летний презент от Элен Стайл».

1.3. Территория проведения игры – Республика Беларусь, Минская обл., г.Молодечно, ул.Виленская, 9, пом.1, парикмахерская «Элен Стайл».

1.4. Срок проведения игры: начало 15.07.2020 г., окончание 25.10.2021г.

1.5. В состав комиссии по проведению рекламной игры входят:

Председатель комиссии: Сокол Сергей Леонидович – индивидуальный предприниматель. Члены комиссии:

– Сосно Алла Игорьевна – гл.бухгалтер ООО «СморгоньВнешТорг»;

– Черепок Анастасия Сергеевна – продавец «АвтоЮрСервисПлюс»;

– Зеленов Александр Анатольевич – кладовщик ООО «Велес-Мит»;

– Орлович Ольга Владимировна – техник ООО «Велес-Мит».

1.6. Настоящая рекламная игра проводится в целях стимулирования реализации услуг парикмахерской «Элен Стайл».

**2. Условия, при соблюдении которых потребитель услуг становится участником рекламной игры.**

2.1.Общие условия.

Участником рекламной игры могут быть все граждане Республики Беларусь, выразившее свое желание принять участие в рекламной игре и отвечающие требованиям по ее проведению.

Участником рекламной игры не может быть лицо, состоящее в трудовых отношениях с организатором, супруг (супруга) такого лица, его близкие родственники, а также лица, находящиеся с таким лицом в отношениях свойства. Участниками рекламной игры не могут быть члены комиссии.

2.2. Для участия в рекламной игре необходимо в период с 15.07.2020 г. по 15.08 2021 г.:

– воспользоваться любой услугой парикмахерской «Элен Стайл» (стрижки: мужские, женские, детские; укладки, окрашивания, меллирования, маникюр) и поставить отметку в специальном талоне, полученном у мастера;

– после 5 (пяти) отметок в талоне получить у мастера анкету с отрывным корешком, участника рекламной игры (далее – анкета);

– заполнить в анкете Ф.И.О., контактный телефон и адрес проживания;

– вернуть заполненную анкету мастеру, а отрывной корешок оставить себе;

– сохранить отрывной корешок до окончания рекламной игры и получения выигрыша.

**3. Состав и размер призового фонда и источники его формирования.**

| № п/п | Наименование приза | Кол-во | Цена бел. руб. | Сумма бел. руб. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Телевизор KIVI 32H500GR | 1 | 319.00 | 319.00 |
| 2 | Кухонный комбайн HOLTHT-FR-002 | 1 | 148.21 | 148.21 |
| 3 | Фен PHILIPS BHD 002/00 | 1 | 55,00 | 55,00 |

Призовой фонд составляет 522,21 (Пятьсот двадцать два рубля двадцать одна копейка) бел.руб.

Призовой фонд сформирован из имущества Организатора.

**4. Место, дата, время и порядок проведения розыгрыша призового фонда, порядок определения победителей.**

Розыгрыш состоится 20. 08 2021г. в 14.00 по адресу: Минская обл., г.Молодечно, ул.Виленская, 9, пом .1, парикмахерская «Элен Стайл». Все анкеты, участвующие в розыгрыше, засыпаются в лототрон и перемешиваются, затем один из членов комиссии достает из лототрона 3 (три) анкеты. Призовой фонд разыгрывается в последовательности, указанной в разделе 3 настоящих Правил.

**5. Срок и способ информирования победителей.**

Организатор до 25. 08. 2021 г. направляет победителям по адресу, указанному в анкете, заказное письмо с уведомлением о доставке.

**6. Место, порядок и срок выдачи выигрышей.**

Призы можно получить после окончания розыгрыша до 25. 10. 2021 г., по адресу: Минская обл., г.Молодечно, ул.Виленская, 9, пом. 1, парикмахерская «Элен Стайл».

При получении приза выигравший обязан представить отрывной корешок и оригинал документа, удостоверяющего личность.

Ответственность по уплате налогов, предусмотренных законодательством Республики Беларусь, в связи с получением призов лежит на победителях рекламной игры.

Организатор не оплачивает расходы выигравших, связанные с прибытием в места получения призов.

Выплата денежного эквивалента стоимости призов либо замена другими призами не производится. Денежная компенсация за отказ от приза по каким-либо причинам или в случае, если приз не будет востребован в течении выше установленного срока, не выдается.

Обладатели призов при их получении обязаны заполнить и поставить свою подпись во всех документах, необходимых организатору для надлежащего оформления проведения рекламной игры и составления отчетности по результатам розыгрыша.

**7. Название печатного средства массовой информации, в котором будут опубликованы результаты проведения рекламной игры, а также сроки их опубликования.**

Правила проведения рекламной игры подлежат опубликованию в газете «Рэгіянальная газета» до начала рекламной игры. Результаты рекламной игры будут опубликованы в газете «Рэгіянальная газета» до 25.08.2021 г.

8. Организатору запрещается в период с начала рекламной игры и до даты проведения розыгрыша повышать цены (тарифы) на товары (работы, услуги), для стимулирования реализации которых организуется данная игра, в том числе путем отмены скидок на них.

Контактные телефоны для справок по вопросам проведения рекламной игры:

+375 29 636 60 42, +375 29 703 04 93

**Индивидуальный предприниматель Д.А.Козловский.**

# Хто стаў кандыдатам у прэзідэнты Беларусі

**Прэтэндэнты ў кандыдаты збіралі подпісы цягам месяца. Пасля збору подпісаў засталіся наступныя прэтэндэнты: Віктар Бабарыка, Святлана Ціханоўская, Валер Цапкала, Андрэй Дзмітрыеў, Сяргей Чэрачань, Ганна Канапацкая, Аляксандр Лукашэнка.**

**14 ліпеня Цэнтральная выбарчая камісія (ЦВК) правяла пасяджэнне. На ім члены камісіі прымалі рашэнне, каго з прэтэндэнтаў зарэгіструюць у кандыдаты ў прэзідэнты. «РГ» распавядае, якія кандыдаты сёлета будуць удзельнічаць у прэзідэнцкай кампаніі.**


Фота tut.by
Андрэй Дзмітрыеў.


Фота tut.by
Ганна Канапацкая.


Фота rbc.ru
Аляксандр Лукашэнка.


Фота belsat.eu
Святлана Ціханоўская.


Фота euroradio.fm
Сяргей Чэрачань.



Фота tut.by, nashy.by
Віктара Бабарыку (злева) і Валера Цапкалу ЦВК не зарэгістраваў кандыдатамі.

## Бабарыку і Цапкалу не зарэгістравалі

ЦВК не зарэгістраваў Віктара Бабарыку. Прычынамі сталі неадпаведнасць дэкларацыі аб даходах і маёмасці і ўдзел замежнай арганізацыі ў яго выбарчай кампаніі. Падчас пасяджэння кіраўнік ЦВК **Лідзія Ярмошына** зачытала ліст з Камітэта дзяржкантролю, у якім сказана, што Бабарыка кіраваў злачыннай групай. Цяпер штаб Бабарыкі плануе падаць скаргу ў Вярхоўны суд Беларусі.

Сам Віктар Бабарыка знаходзіцца ў СІЗА КГБ у Мінску па абвінавачаннях у парушэнні артыкула 235 (Легалізацыя сродкаў, атрыманых злачынным шляхам, учыненыя паўторна, або службовай асобай з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў, альбо ў асабліва буйным памеры), артыкула 243 (Ухіленне ад выплаты падаткаў, што пацягнула шкоду ў асабліва буйным памеры) і артыкула 431 (Дача хабару паўторна або ў буйным памеры) Крымінальнага кодэкса Беларусі.

У СІЗА сядзіць і яго сын, кіраўнік штаба, Эдуард Бабарыка. Эдуарда абвінавачваюць па частцы 2 артыкула 243 КК (Ухіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры).

Іх абодвух затрымалі 18 чэрвеня. Праваабаронцы прызналі Эдуарда і Віктара Бабарыкаў палітзняволенымі.

За сваё вылучэнне Віктар Бабарыка здаў у камісіі 367 179 подпісаў, пасля праверак сапраўднымі былі прызнаны 165 744 подпісы.

Валера Цапкалу не зарэгістравалі з-за недакладнасці ў дэкларацыі яго жонкі, Веранікі Цапкалы, а таксама з-за таго, што ён не сабраў больш за 100 тысяч вераных подпісаў. Штаб Цапкалы плануе падаць скаргу ў Вярхоўны суд.

Штабы Бабарыкі і Цапкалы не выключаюць магчымасць аб'яднацца з іншымі кандыдатамі, якіх зарэгістравалі 14 ліпеня. Яны не назвалі імёны гэтых кандыдатаў.

За вылучэнне ў кандыдаты Валер Цапкала здаў у камісіі 158 682 подпісы. Пасля праверкі сапраўднымі прызналі толькі 78 224 подпісы.

## Далей у выбарчай гонцы ўдзельнічаюць пяцёра

ЦВК зарэгістравала пяць кандыдатаў – Ціханоўскую, Дзмітрыева, Чэрачня, Канапацкую і Лукашэнку. Яны далей будуць удзельнічаць у барацьбе за вышэйшую пасаду ў краіне.

**Сяргея Чэрачня** зарэгістравалі аднагалосна пасля таго, як Лідзія Ярмошына ўдакладніла ў прэтэндэнта, ці збіраецца ён удзельнічаць у выбарчай гонцы. Чэрачань падзякаваў за рэгістрацыю і сказаў, што больш яму няма чаго сказаць у дадзены момант.

Сяргей Чэрачань здаў 149 750 подпісаў, пасля праверкі іх засталося 143 109. Штаб Чэрачня заяўляў, што за яго вылучэнне сабралі толькі 106 500 подпісаў.

У ЦВК да **Святланы Ціханоўскай** была прэтэнзія па маёмасці на Гомельшчыне, якую прэтэндэнтка не ўключыла ў дэкларацыю. Камісія вырашыла, што гэта нязначны момант, таму гэта не перашкаджае ёй стаць кандыдатам. У прамове пасля рэгістрацыі Ціханоўская адзначыла, што быў вельмі няпросты месяц і яна спадзяецца на перамены.

Муж Святланы, Сяргей Ціханоўскі, які з'яўляецца кіраўніком штаба, знаходзіцца ў СІЗА. Ціханоўскага і яшчэ 10 чалавек абвінавачваюць у парушэнні артыкула 342 (Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак) Крымінальнага кодэкса Беларусі.

Яго затрымалі 29 мая падчас пікету ў Гродне. Праваабаронцы прызналі Ціханоўскага палітзняволеным.

Згодна з ЦВК, Святлана Ціханоўская перадала ў камісіі 109 479 подпісаў. Пасля праверкі засталося 104 757.

**Андрэй Дзмітрыеў** быў зарэгістраваны ЦВК, да яго ў камісіі не ўзнікла пытанняў.

– Гэта больш не кампанія за кандыдата Дзмітрыева, цяпер гэта кампанія салідарнасці за ўсіх тых, хто лічыць, што Беларусі патрэбны новы прэзідэнт, і супраць усяго, што прыніжае беларусаў і не дае ім зрабіць выбар. Я лічу, што стаць кандыдатамі маюць права Віктар Бабарыка, Валер Цапкала, Сяргей Ціханоўскі, – заявіў Дзмітрыеў у прамове пасля рэгістрацыі.

Дзмітрыеў перадаў у камісіі 110 754 подпісы. Пасля праверкі засталося 106 841.

**Ганну Канапацкую** таксама зарэгістравалі. Яна падзякавала за гэта Лідзіі Ярмошынай, якая ўзначальвае ЦВК. Канапацкая выказала спадзяванне, што выбары пройдуць у адпаведнасці са стандартамі АБСЕ, прывядуць да збліжэння Беларусі з Еўрапейскім саюзам.

У Канапацкай 151 631 подпіс быў перададзены ў камісіі, пасля праверкі подпісаў засталося 146 588. Раней Канапацкая сцвярджала, што перадала ў камісіі толькі 110 тысяч подпісаў.

**Аляксандра Лукашэнку**, які балатуецца на шосты тэрмін, камісія зарэгістравала. На пасяджэнні ён не прысутнічаў, яго прадстаўляў кіраўнік штаба **Міхаіл Орда**.

У Лукашэнкі былі пададзеныя ў камісіі 1 958 800 подпісаў. Пасля праверкі засталося 1 939 572.

## Што далей?

Кандыдаты ў прэзідэнты атрымалі пасведчанні, што яны з'яўляюцца кандыдатамі. Такім чынам, яны ад 14 ліпеня маюць права агітаваць, праводзіць мітынгі і сустракацца з выбаршчыкамі.

4 жніўня пачнецца датэрміновае галасаванне. 8 жніўня – дзень цішыні, калі будзе нельга агітаваць. А ўжо 9 жніўня пройдуць выбары прэзідэнта.


Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




У карцінах арт-двара тэмы беларускай культуры, жывёл, адпачынку, мар.

# Галерэю ў двары стварылі ў Маладзечне

**16 ліпеня, у дзень, калі друкуецца газета, – адкрыццё маладзечанскага арт-двара. Таго самага, дзе намалявалі карціны на дзвярах пад'ездаў або каля іх.**

На ўрачыстае адкрыццё запрасілі правесці шоу мыльных пузыроў, майстар-клас па вырабе цацак ад **Юлі Башынскай**, квэст ад «Рэгіянальнай газеты», спаборніцтва па валейболе. Для ўдзельнікаў запрасілі выступіць салістаў эстраднай студыі «Пралеска» гімназіі №6 **Алену Грыб** і **Яну Вяль** пад мастацкім кіраўніцтвам **Вольгі Паўловіч**. А таксама **Радзівона Чурыніна**, удзельніка і пераможцу многіх музычных спаборніцтваў.

**Мары, Беларусь, адпачынак**

Прасторай «арт-двор» назвалі некалькі шматпавярховак, размешчаных каля дома №1 па вуліцы Францыска Скарыны ў Маладзечне. Тут цягам апошняга года размясцілі некалькі мастацкіх аб'ектаў, і вось цяпер размясцілі галерэю проста на дзвярах пад'ездаў.

Арганізавалі праект **Ірына Тархан** з дачкой **Арынай**, а таксама настаўнік мастацкай школы **Кацярына Роўда**. Да іх далучыліся і мясцовыя жыхары, і навучэнцы, і крэатыўны мастак **Bazinato**.

Праект рэалізуюць у межах кампаніі «Зробім лепш» пры падтрымцы Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацыі, а таксама пры інфармацыйнай падтрымцы Асамблеі НДА.

**Хто маляваў**

Тэмы карцін разбітыя па дамах. Дом па Вялікім Гасцінцы, 123 увасабляе тэмы космасу, неба і мар. Дом №121 па Вялікім Гасцінцы – гэта поры года і адпачынак. Тут вы знойдзеце маяк як сімвал дома і вяртання дадому. Карціну з берагам хтосьці ўбачыць як мора, а іншыя як Нарач з паруснай рэгатай. Побач – выява звяроў, якія падарожнічаюць па Беларусі. На іншай карціне – птушкі з рабінай, на наступнай – дзяўчына-вясна з пралескамі.

Дом №1 па Францыска Скарыны адлюстроўвае сувязь чалавека і прыроды. Тут вы ўбачыце аздобленыя цытаты беларускіх аўтараў. Васількі, буслы, шышшыны, казуля – такія вобразы на гэтых дзвярах. Адны дзверы гэтага дома ўпрыгожвае карціна Bazinato «Абдыманкі», дзе дзяўчынка нібы абдымае Маладзечна.

**Дом па Францыска Скарыны, 3 упрыгожваюць карціны з жывёламі, а адна з іх – выява Жыценя, істоты, што аберагае ўраджай.**

Карціны малявалі Кацярына Роўда, Арына Тархан, Ірына Тархан, **Настасся Жардзецкая**, **Дзіяна Рогач**, **Ксенія Арлоўская**, **Паліна Крамплеўская**, **Любоў Статкевіч**, **Ларыса Рудак** з суседкай **Міланай**. Да працы далучыліся жыхары двара **Ганна Стужынская** і **Наталля Садоўская**. **Яна Урсуляк** і **Ліза Лапко** вучыліся разам з Арынай, вырашылі падтрымаць сяброўку і таксама далучыліся да праекта.

Цяпер у арт-двор многія ходзяць на экскурсію і для фотасесій. Ідэя так спадабалася, што жыхары з суседняга двара самі падрыхтавалі дзверы, набылі фарбы і запрасілі намаляваць карціну на дзвярах іх пад'езда.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Карціна мастака з Маладзечна Bazinato «Абдыманка». Дзяўчынка абдымае Маладзечна.


Фота racyja.com.

Стася Наркевіч.

# Ураджэнка рэгіёна – сярод прэтэндэнтаў на літаратурную прэмію Гедройца

МАЛАДЗЕЧНА

**Журы літаратурнай прэміі Гедройца апублікавала доўгі спіс намінантаў. У спісе – 22 прозвішчы. Сярод намінантаў – пісьменніца, ураджэнка Маладзечаншчыны Стася Наркевіч (Настасся Лазебная).**

У спіс уключаная яе кніга «Прывідаў пярсцёнак», што выйшла ў 2019 годзе ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор».

Анастасія Лазебная нарадзілася ў 1952 годзе ў вёсцы Куляшы Маладзечанскага раёна. Скончыла Хоўхлаўскую сярэднюю школу, студыю выяўленчага мастацтва пры Маладзечанскім Доме народнай творчасці. Працавала ў Маладзечне мастакомафарміцелем на заводзе «Спадарожнік», потым у гандлі, будаўнічым трэсце. Затым была вучоба ў БДУ на факультэце журналістыкі. Ад пачатку 1980-х жыве і працуе ў Віцебску, дзе працуе ў журналістыцы. Ад 2013 года ўзначальвае Віцебскую філію Саюза беларускіх пісьменнікаў. Вядомая як празаік, публіцыст, гумарыст. Шмат піша для дзяцей.

Прэмія імя Ежы Гедройца заснаваная 28 снежня 2011 года. Яе прысуджаюць за найлепшую кнігу, выдадзеную ў папяровым або электронным варыянтах у папярэднім годзе на беларускай мове ў жанрах «мастацкая проза» і «эсэістыка». Заснавальнікамі літаратурнай узнагароды выступілі Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь, Польскі Інстытут у Мінску, Беларускі ПЭН-цэнтр і Саюз беларускіх пісьменнікаў. Прэмія была названая ў гонар ураджэнца Мінска, польскага публіцыста і палітыка Ежы Гедройца, які ў сваёй культурнай дзейнасці быў паслядоўным прыхільнікам добрасуседскіх адносін паміж Польшчай, Беларуссю, Літвой і Украінай.

У 2013 годзе прэмію ўручылі ўраджэнцу Смаргоні, пісьменніку **Уладзіміру Някляеву**. Тады ён атрымаў дзесяць тысяч еўра за кнігу прозы «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без». У 2016 годзе ў кароткі спіс увайшла яшчэ адна смаргонка – пісьменніца **Таццяна Скарынкіна**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Віляйчук зняў камету ў небе над сваім горадам

ВІЛЕЙКА

**Камету C/2020 F3 NEOWISE зняў віляйчук, фатограф Міхась Кулеш.**

Фотаздымак каметы над Вілейкай Міхась зрабіў ноччу, 14 ліпеня.

Па словах спецыялістаў, камета C/2020 F3 NEOWISE – самая яркая за апошнія сем гадоў. На мінімальнай адлегласці ад нас яна пройдзе 23 ліпеня.

Камету заўважылі інфрачырвоным касмічным тэлескопам сёлета, у канцы сакавіка. Да 19 ліпеня яна яшчэ будзе добра бачная. Адзначаюць таксама, што глядзець на камету лепш за горадам. Тут не будуць перашкаджаць ліхтары і шматпавярховікі. Асабліва добра яна бачная ад апоўначы да дзвюх гадзін ночы.

Па дадзеных NASA, камета ў памеры – каля пяці кіламетраў. Яе ядро пакрытае цёмнымі часціцамі, якія засталіся там яшчэ з часу яе фарміравання, амаль каля пяці мільярдаў гадоў таму. Камета круціцца вакол Сонца па выцягнутай арбіце.

Наступны раз камета з'явіцца над зямлёй праз 6 800 год.

**Аддзел інфармацыі.**


Фота Міхася КУЛЯША.

Камета над Вілейкай.

## У адукацыю чакаюць спецыялістаў

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

Маладыя спецыялісты-педагогі патрэбныя ў школы, гімназіі і садкі рэгіёна.

Маладзечанскі раён – другі ў Мінскай вобласці па колькасці вакансій для маладых спецыялістаў. Сюды трэба 193 педагогі. Вілейшчына чакае 29 маладых настаўнікаў і выхавальнікаў.

Найбольш патрэбныя на Міншчыне настаўнікі матэматыкі. На другім месцы – настаўнікі англійскай мовы. Запатрабаваныя таксама настаўнікі пачатковых класаў, фізкультуры, псіхолагі, сацыяльныя педагогі, выхавальнікі ў садкі.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

## У Вілейскім упраўленні капітальнага будаўніцтва – новы дырэктар

ВІЛЕЙКА

Пра гэта карэспандэнту паведамілі ў аддзеле кадравай работы Вілейскага райвыканкама.

Ад 10 ліпеня дырэктарам упраўлення стаў **Сяргей Міхалік**. Да гэтага часу ён быў намеснікам дырэктара.

Раней упраўленнем кіраваў **Аляксандр Крупскі**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Памежнікі падарылі паслу Славакіі шчанюка нямецкай аўчаркі

СМАРГОНЬ

11 ліпеня Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Паслу Славакіі ў Беларусі **Ёзафу Мігашу** з нагоды завяршэння яго дыпламатычнай місіі памежнікі падарылі шчанюка нямецкай аўчаркі.

Сабака па мянушцы Зора, у перакладзе са славацкай – зара, чакаў свайго будучага гаспадара ў кіналагічным цэнтры органаў пагранслужбы ў Смаргоні.

Ёзаф Мігаш унёс значны ўклад у развіццё і ўмацаванне адносін паміж нашымі краінамі, і цяпер ён вернецца на родную зямлю са шчанюком, падораным у якасці сімвала моцнага сяброўства Беларусі і Славакіі.

**Дзяржпагранкамітэт.**

## Ужо можна паляваць на бакаса

Ад 11 ліпеня да 8 жніўня працягваецца сезон палявання на бакаса.

Паляваць дазволена ў светлы час сутак ружэйным спосабам з падыходу толькі з паляўнічымі сабакамі (выжламі, спаніэлямі, ратвелерамі) з гладкаствольнай паляўнічай зброяй з выкарыстаннем патронаў са шротам. З адным сабакам могуць паляваць да трох паляўнічых.

Таксама дазваляюць безружэйнае паляванне з дапамогай лоўчых птушак

Нагадваем, што ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь за незаконнае паляванне прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць, а пры нанясенні шкоды навакольнаму асяроддзю звыш ста базавых велічынь – крымінальная адказнасць.

**Васіль ПАЎЛАЎ,**
**Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## Белгідрамет: У Беларусі павялічваецца кліматычнае лета і скарачаецца зіма

У Беларусі павялічваецца кліматычнае лета і скарачаецца зіма. Пра гэта паведаміла начальнік аддзела вывучэння змен клімату службы метэаралагічнага і кліматычнага маніторынгу, фонду дадзеных Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя Мінпрыроды **Наталля Клявец**.

– У сувязі з павышэннем тэмпературы паветра мы адзначаем у Беларусі павелічэнне кліматычнага лета – за апошнія 30 гадоў – у сярэднім на пяць– сем дзён – і скарачэнне зімы.

Напрыклад, на рубяжы 2019-2020 гадоў кліматычная зіма ўвогуле не наступіла.

Сезоннасць клімату ў нас, вядома ж, захаваецца, так як яна абумоўленая астранамічнымі фактарамі, але поры года пацярпець змены, – сказала Наталля Клявец.

Яна адзначыла, што ў свеце ў сувязі са зменай клімату будзе павялічвацца колькасць небяспечных метэаралагічных з'яў:

– На тэрыторыі Беларусі за апошнія 30 гадоў не адзначаецца адназначнага росту іх колькасці. Але ў асобных відаў небяспечных з'яў можа павялічвацца паўтаральнасць. Напрыклад, небяспечная спякота (тэмпература паветра вышэй за 35 градусаў) адзначаецца ўсё часцей. Калі раней мы фіксавалі такое толькі па поўдні Беларусі (у Брэсцкай і Гомельскай абласцях), то цяпер тэмпературы вышэй за плюс 35 могуць адзначацца па ўсёй тэрыторыі краіны.

**Паводле БелТА.**

# У судзе дапыталі сведак па справе аб дамоўным матчы «Дынама-Маладзечна»

**У судзе Маскоўскага раёна Мінска 7 ліпеня аднавіўся разгляд крымінальнай справы па дамоўным хакейным матчы «Дынама-Маладзечна» – «Магілёў» і распаўсюджанні парнаграфічных матэрыялаў.**

Перапынак у разглядзе справы склаў амаль паўтара месяца. 20 мая суддзя **Юры Машкетаў** адклаў разгляд з-за хваробы хакеіста **Мікіты Усціненкі**, якога абвінавачваюць у дамоўным матчы.

Чатырох хакеістаў – Мікіту Усціненку, **Сяргея Шэлега**, **Аляксандра Сырэя**, **Аляксея Іванова** – абвінавачваюць па двум артыкулам Крымінальнага кодэкса.

253 артыкул КК (подкуп удзельнікаў і арганізатараў прафесійных спартыўных спаборніцтваў і відовішчных камерцыйных конкурсаў);
343 артыкул КК (выраб і распаўсюджанне парнаграфічных матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару).

## Вячаслаў Лісічкін: «Была дамоўленасць аб пройгрышы»

7 ліпеня ў судовым пасяджэнні дапыталі раней падазраваных удзельнікаў хакейнага матча. На іх таксама завялі крымінальную справу па ўдзелу ў дамоўнай гульні, аднак потым следства вызваліла іх ад крымінальнай адказнасці.

Цяпер яны знаходзяцца ў якасці сведак, гэта былыя гульцы маладзечанскага клуба – **Вячаслаў Лісічкін**, **Станіслаў Кучкін** і **Павел Баярчук**.

У паказаннях Лісічкін расказаў пра сваю ролю ў арганізацыі дамоўнага матча паміж «Дынама-Маладзечна» і «Магілёвам» у мінулым лістападзе.

Па словах Лісічкіна, за некалькі дзён да матча да яго падышоў Шэлег альбо Іваноў – дакладна ён не памятаў. Сказалі, што ёсць варыянт зарабіць грошы на дамоўным матчы.

– Я адказаў, што такое пытанне трэба абмяркоўваць з людзьмі. У падобных размовах мы арыентаваліся на лідараў. Чым большае ўцягванне людзей, тым больш гарантый дамагчыся загадзя абумоўленага выніку. У нас жа на лёд выходзіць пяцёрка, не ўсе ў адзін момант знаходзяцца на пляцоўцы.

Лісічкін сам пагутарыў з Сырэем. Праз некалькі дзён той прапанаваў іншы варыянт па дамоўнай гульні. Сырэй, па словах Лісічкіна, прапанаваў згуляць дамоўны матч за паўмільёна расійскіх рублёў на ўсіх. Асноўная мэта – паражэнне «Дынама».

– У выніку на забеспячэнне патрэбнага выніку пагадзіліся я, Баярчук, Сырэй, Іваноў, Шэлег, Кучкін, Усціненка, – сказаў суддзі Лісічкін.

Асабіста пра ўдзел у дамоўнай гульні Лісічкін размаўляў з Баярчуком, Кучкіным і **Феакціставым**. Феакціставу, па словах Лісічкіна, нічога не адказаў і ніяк не адрэагаваў.

Суддзя апытваў пра тое, як практычна рэалізоўвалі план па дамоўнай гульні. Лісічкін расказаў, што ў другім тайме каманда выйгравала з лікам 5:1. Гэта, на яго думку, было дрэнна, таму ў трэцім перыядзе дынамаўцы спецыяльна прапускалі шайбы.

Суддзя запытаўся, выпадкова ці наўмысна прапусцілі шмат шайбаў. Лісічкін адказаў:

– Была ж дамоўленасць аб пройгрышы. Трэба было прайграваць. Асабіста я гуляў не ў поўную сілу, менш пагражаў варотам, менш кідаў.

Пасля матча, распавёў Лісічкін, хакеістаў абвінавацілі ў здачы гульні партнёры па камандзе, якія ў гэтым не ўдзельнічалі, начальства клуба і простыя заўзятары. На наступны дзень пасля таго матча прайшла сустрэча хакеістаў і заўзятараў. Яны абвінавачвалі гульцоў, што здалі матч і спецыяльна прайгралі. Начальнік каманды **Дзмітры Мельнік** быў згодны з заўзятарамі і сказаў, што хакеістамі ўжо зацікавіліся праваахоўнікі.

У гэты ж дзень Лісічкін, Шэлег, Сырэй, Кучкін, Амбражэйчык і іншыя хакеісты сабраліся на вуліцы. Яны дамовіліся не прызнавацца ў дамоўнай гульні, а сказаць, што прайгралі не наўмысна.

Аднак у міліцыі Лісічкін прызнаўся ва ўдзеле ў дамоўным матчы. Таксама хакеіст удакладніў, што Амбражэйчык даў згоду на ўдзел у матчы, але пасля сышоў з гульні і адмовіўся ў гэтым удзельнічаць.

Грошы за дамоўны матч хакеісты вырашылі не браць, таму што іх дзеяннямі зацікавіліся праваахоўныя органы.

Таксама Лісічкін сказаў, што ўдзельнічаць у дамоўным матчы пагадзіўся з-за запазычанасці клуба па заробку:

– Атрымалася так, што ў перыяд ад ліпеня да лістапада 2019 года нам выплацілі толькі адну месячную зарплату. Калі раскласці па месяцах, то ў сярэднім на месяц прыйшлося па 130-150 рублёў.

Гульцы звярталіся з гэтай нагоды да кіраўніцтва клуба, аднак змяненняў па выплаце заробкаў не адбылося.

## Станіслаў Кучкін: «Сырэй сказаў, што трэба прайграваць»

Станіслаў Кучкін назваў тое, што адбылося з матчам у лістападзе, «памылкай».

– Мы ўсе здзейснілі памылку, што пагадзіліся забяспечыць вынік, забяспечыць наш пройгрыш.

За некалькі дзён да матча Кучкін сустрэў у распранальні Лісічкіна і Шэлега. Лісічкін прапанаваў згуляць на дамоўным матчы: быў патрэбны пройгрыш, тады хакеістам заплацяць.

– У мяне было цяжкае фінансавае становішча, бацькі хварэлі, у мяне не было выйсця. Я пагадзіўся.

Кучкіну абяцалі заплаціць 700 долараў. Потым ён звязаўся з Сырэем, спытаў у яго, што адбудзецца, калі гульцы не забяспечаць абумоўлены вынік. Той адказаў, што ў любым выпадку трэба прайграваць.

– Але матч неяк адразу пайшоў не па сцэнарыі. Мы ў другім перыядзе павялі 5:1. Я сам закінуў шайбу і зрабіў галявую перадачу. У распранальні папрасіў прабачэння за гэта перад хлопцамі. Калі ўжо выходзілі на лёд, Лісічкін сказаў мне, што трэба прайграць у любым выпадку, інакш Сырэя проста закапаюць. У выніку мы прапусцілі ў трэцім перыядзе чатыры шайбы і прайгралі з лікам 5:6.

## Што пра дамоўны матч распавёў Павел Баярчук

Былы гулец «Дынама-Маладзечна» Павел Баярчук распавёў, што аб дамоўным характары матча даведаўся напярэдадні гульні з паведамленняў у групавым чаце ў інтэрнэце.

Па яго словах, з ім размаўлялі Лісічкін і Шэлег. Яны намякалі, што трэба будзе згуляць дамоўны матч, прайграць «Магілёву». Баярчук прызнаўся, што на той момант быў не гатовы размаўляць з імі на такую тэму. Аднак у інтэрнэт-чаце ішло абмеркаванне наконт гульні і як трэба яе правесці.

Хакеісту абяцалі за дапамогу ў дамоўным матчы грошы, 700 долараў на чалавека. Асабіста Баярчук не пісаў, што згодны, але быў згодны забяспечыць патрэбны вынік. Ён пагадзіўся з-за таго, што ў дамоўным матчы ўдзельнічалі галоўныя людзі ў камандзе, лідары.

Баярчук таксама расказаў, як праходзіў матч.

– Мы спачатку выйгравалі, а потым у канцы сустрэчы прапусцілі шмат шайбаў. Дапускалі памылкі, якія прыводзяць да галоў. Вынік гульні адпавядаў дамоўленасці аб пройгрышы.

На наступны дзень пасля гульні пры асабістай сустрэчы хакеісты дамовіліся не прызнавацца ў змове і спісаць усё на збег абставінаў. Сам Баярчук на той сустрэчы не быў, пра яе распавёў Лісічкін.

Праваахоўныя органы праз некалькі дзён затрымалі некалькі хакеістаў, а астатнія самі прыйшлі ў міліцыю.

– Ужо няма чаго было прыдумваць, усё было вядома, заставалася толькі ва ўсім прызнацца, – удакладніў Баярчук.

Ён таксама пацвердзіў, што грошы хакеісты за дамоўны матч не атрымалі.

Яшчэ адзін фігурант справы Мікіта Феакціставу, які стаў сведкам, апавясціў суд, што знаходзіцца на тэрыторыі Расіі і не можа прыбыць для дачы паказанняў. Ён хадайнічаў пра абвяшчэнне ў судзе яго паказанняў на стадыі папярэдняга следства.

У ходзе допытаў Феакціставу адмаўляў факт удзелу ў дамоўным матчы, запэўніваў, што яго матывацыя была зусім іншая. Следства з ім пагадзілася і зняла з яго абвінавачванне.

Паводле яго слоў, ён прыбыў у Маладзечна з першай каманды, з мінскага «Дынама». І рабіў усё, каб вярнуцца ў асноўны клуб. Гатовы быў закідваць па тры-чатыры шайбы за гульню, каб вярнуцца ў каманду КХЛ. У асноўнай камандзе ў яго ў год выходзіла каля 100 тысяч долараў заробку.

– І каб я запэцкаўся гэтымі некалькімі сотнямі долараў! Дзе логіка, матыў? Калі б на мяне ўпаў хоць цень удзелу ў дамоўным матчы, мяне ніколі ў жыцці не ўзялі б у першую каманду.

Пры гэтым Феакціставу не стаў адмаўляць факт неданясення аб злачынстве. Паводле яго слоў, ён даведаўся аб дамоўным характары матча яшчэ да яго пачатку, у забеспячэнні пройгрышу не ўдзельнічаў, гуляў у поўную сілу і пасля агульнага сходу каманды проста стаў чакаць выкліку ў праваахоўныя органы. Ніякай неабходнасці ва ўласнай ініцыятыве ён не бачыў, паколькі ўсім ужо было зразумела, што здарылася на самой справе.

Паводле pressball.by.



Фота hockey.by.

Вячаслава Лісічкіна таксама абвінавачвалі ў крымінальнай справе, аднак цяпер ён выступае ў якасці сведкі.



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Населены пункт у Смаргонскім раёне, дзе жыў Францішак Багушэвіч.
4. Адасоблены сялянскі зямельны ўчастак разам з сядзібай уладальніка.
5. У заходнееўрапейскай міфалогіі – казачная істота, дух прыроды, добразычлівы да людзей.
7. Агульны выгляд мясцовасці; пейзаж.
8. Нябеснае цела, якое па сваёй прыродзе падобнае на Сонца і ўяўляецца чалавеку на начным небе зззяючай кропкай.
9. Падаючая зорка.
10. Частка слова, якая стаіць паміж коранем і канчаткам і надае слову асобны сэнс у параўнанні з іншымі аднакарэннымі словамі.
11. Сукупнасць якасцяў, якія прыносяць задавальненне, асалоду зроку, слыху; усё прыгожае і прыемнае.
13. Спецыяльнае памяшканне, дзе мыюцца і парацца.
14. Састаўная частка цэлага.
19. Загана, недахоп.
20. Вадзяны вал, які ўтвараецца гайданнем паверхні вады.
21. Дзіця або падлетак мужчынскага полу.
22. Шафа для адзення.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. У 1986 годзе ў Парыжы на плёнцы выпусцілі кнігу, якую можна чытаць, карыстаючыся загаданым прыстасаваннем.
3. Апарат для запісу вуснай мовы з мэтай узнаўлення яе пры неабходнасці.
5. Наведванне чаго-небудзь, паездка, прагулка з навуковай, адукацыйнай ці іншай мэтай.
6. Адзінка вымярэння аб'ёму і ёмістасці, роўная 1000 кубічных сантыметраў.
7. Прыстасаванне для сядзення на некалькі чалавек.
10. Сшытыя, у вокладцы, лісты чыстай паперы для пісьма, малявання.
12. Вера Вярба: «Кожны вечар бачу столькі Розных позіркаў, ... . Ды адны хвалююць толькі, Толькі б іх сустрэць хутчэй!».
14. Непразрыстая шклопадобная маса для пакрыцця металічных прадметаў з мэтай захавання іх ад акіслення, а таксама глазура для пакрыцця мастацкіх вырабаў.
15. Прылада ў выглядзе насаджанага на тапарышча шырокага прадаўгаватага кліна з лязом з аднаго боку і абухом з другога.
16. Самая цёплая пара года.
17. Прамяністая энергія, якая вылучаецца палымнеючым целам і ўспрымаецца зрокам.
18. Памяшканне для коней, канюшня.
19. Размова паміж дзвюма або некалькімі асобамі.
20. Латышская пагаворка: «Чорная праца – белы ...».

## Адказы на крыжаванку з №28

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Мазоль. 3. Жмуркі. 5. Твар. 6. Адгул. 7. Марфема. 8. Жанчына. 11. Азбука. 12. Знак. 13. Глобус. 15. Міліцыя. 16. Слоўнік. 19. Каліграфія. 21. Талія. 23. Абарот.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Метр. 2. Дзяржава 4. Тупат. 8. Жалейка. 9. Трэфы. 10. Гном. 11. Ануча. 12. Зямля. 13. Гібель. 14. Майстар. 17. Лакмус. 18. Патрэба. 20. Галера. 21. Тапор. 22. Акіян.

## ГАРАСКОП НА 17-23 ЛІПЕНЯ



**АВЕН**. У гэты час пастарайцеся не хапацца за некалькі спраў адначасова. Гэта не дасць патрэбнага выніку, а толькі пачне раздражняць і адымаць шмат сіл. Не дазваляйце сабе адцягваць увагу ад самага галоўнага. Гэтым і займайцеся ў першую чаргу, а астатняе ўжо як атрымаецца.



**ЦЯЛЕЦ.** Вам важна знайсці час на тое, каб развеяцца. Прычым гэта павінна быць нейкае новае месца або такая пляцоўка, дзе вы бываеце не часта. Вы адчуеце асаблівы прыліў энергіі, які дапаможа дасягнуць задуманае.



**БЛІЗНЯТЫ.** Рыхтуйцеся да паездкі або прагулкі. Нават калі вы самі нічога такога не плануеце, вельмі верагодна, што вас запросяць. У рамантычнай сферы пастарайцеся пераключыцца на патрэбы партнёра, верагодна, яму неабходная ваша падтрымка.



**РАК.** У вас добры шанец паправіць здароўе. Магчыма, вы даўно адцягвалі візіт да стаматолага – самы час наведаць доктара. У гэты перыяд вы зможаце адрамантаваць многае з таго, што паламалася, і гаворка не толькі пра рэчы.



**ЛЕЎ.** Час, калі вам захочацца нешта палепшыць у доме. Неабавязкова ладзіць рамонт, магчыма, вы захочаце навесці парадак у шафах ці памяняць тэкстыль. У доме адразу стане свяжэй і чысцей. Вам самім стане лягчэй і дыхаць, і думаць.



**ДЗЕВА.** Пастарайцеся заставацца ў баку ад спрэчак і рознагалоссяў. Займаць нечы бок будзе не так проста, а яно вам і не трэба. Добры час, каб атрымаць паразуменне з кіраўніцтвам. Рамантычныя прапановы маюць сур'ёзны шанец на поспех.



**ШАЛІ.** Самая перспектыўная сфера ў гэты перыяд – рамантычная. Таму абавязкова гэтым скарыстайцеся. Кагосьці чакае прыемнае знаёмства, іншых – цудоўны вечар. У працы старайцеся закончыць справы, якія заляжаліся.



**СКАРПІЁН.** Можа чакаць сур'ёзная папяровая праца. Нечакана яна можа даць вельмі прыемны вынік. Калі шукаеце новую працу, можаце атрымаць прапанову ў нечаканым месцы. Раптоўныя падарожжы могуць стаць тым, што вам больш за ўсё трэба.



**СТРАЛЕЦ.** Добры час для перамен. У кагосьці – месца жыхарства або працы, у іншых – прычоскі. Што б гэта ні было, перамены маюць вялікі шанец на поспех.



**КАЗЯРОГ.** Старайцеся слухаць інтуіцыю, яна падкажа вам слушнае рашэнне па тых пытаннях, што паўстануць перад вамі ў гэты перыяд. Старайцеся быць актыўнымі ў тым, што для вас важна.



**ВАДАЛЕЙ.** Будзьце асцярожныя са сваімі жаданнямі, яны маюць высокі шанец на ўвасабленне. У рамантычных адносінах давядзецца праявіць ініцыятыву, каб атрымаць патрэбны вынік.



**РЫБЫ.** Вы і самі пра тое забылі, але для вас зробяць тое, пра што даўно абяцалі. Магчымыя прыемныя фінансавыя сюрпрызы. Абавязкова старайцеся высыпацца.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | 4 | 7 | | 1 | | 9 |
| 5 | | | | | 8 | | 4 | |
| | | | 9 | | | | 3 | 5 |
| 9 | | 5 | | | | | | 2 |
| | 8 | 2 | | | 1 | | | 3 |
| | 6 | 1 | 5 | | | 8 | | |
| | | 7 | 8 | | | | | |
| 1 | | | | 6 | 9 | 3 | | |
| | | 6 | | | | | | 4 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY

# «Нізка кланяюся вашай сумленнасці»

**У рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты» прайшоў ліст ад чытачкі. Прыводзім яго змест.**

Rh.by

Фота Настассі УТКІНАЙ.

«Пішу вам з Вілейкі ваша новая чытачка **Гісіч Надзея Генадзьеўна**. Мне 64 гады. Да нядаўняга часу я, прызнаюся, не ведала, што ваша газета такая мужная, смелая, разумная, а творцы яе самыя сапраўдныя героі.

Вельмі ўзрадавалася я, купіўшы экзэмпляр у касе крамы. Гэта быў нумар ад 26 чэрвеня. Наступны нумар купіла за 3 ліпеня. Я нізка кланяюся вашай сумленнасці, справядлівасці і чысціні. Як вы добра працуеце! Гэтыя газеты я захаваю на памяць і буду і далей набываць іх у краме альбо выпішу па пошце.

Дзякуй рэдактару Манцэвічу Аляксандру Барысавічу, дзякуй за тое, што вы такі! Цудоўны рэдактар, бо цудоўная ваша газета. Дзякуй Аксане Ярашонак, Зоі Хруцкай, Настассі Уткінай, Арцёму Тарасевічу, аддзелу інфармацыі і іншым, а ўвогуле ўсім супрацоўнікам.

Мяне найбольш зацікавілі сацыяльна-палітычныя нататкі. Не ўмею выказваць усё, што на душы добрае ад вашай газеты. Проста светла і прыемна, цёпла, хочацца жыць ад праўды, ад праматы. Бо надакучыла, балюча чытаць крывадушна, паказуху і іншыя негатывы ў іншых газетах.

Вы – лепшыя з лепшых. Ганаруся вамі, дарагія і мілыя сэрцу супрацоўнікі. Дзякуй вам усім. Так трымаць!».

Дзякуй, што чытаеце «Рэгіянальную газету»! Наша каманда стараецца данесці да чытачоў самыя яскравыя і важныя падзеі рэгіёна і Беларусі.

## Чытайце праз тыдзень:

- Матэрыял Францішка Жылкі пра вераснёвых смертнікаў, надрукаваны ў «Рэгіянальнай газеце», выклікаў водгукі чытачоў, якія знайшлі ў тым спісе сваіх родных. У наступным нумары мы прапануем вам успаміны жаўнера Маладзечанскага 86-га пяхотнага палка, былога жыхара Кабыльніка (цяпер Нарачы).

## 18 ліпеня, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 2-3 м/с

| Горад | Ноч | Дзень | Воблачнасць |
|---|---|---|---|
| Астравец | +11 | +25 | Невялікая воблачнасць |
| Мядзел | +11 | +24 | Малавоблачна |
| Смаргонь | +11 | +25 | Невялікая воблачнасць |
| Вілейка | +12 | +25 | Малавоблачна |
| Ашмяны | +11 | +25 | Малавоблачна |
| Маладзечна | +12 | +25 | Пераменная воблачнасць |
| Валожын | +13 | +25 | Малавоблачна |

Усход 5.03
Захад 21.34
Даўжыня дня 16.31

Усход 2.31
Захад 20.01
Месяц на сходзе

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** НАРАЧ

Мінімальная тэмпература +6,2°С у 1976 годзе
Максімальная тэмпература +30,5°С у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9 мм у 1981 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Якая для вас самая запамінальная падзея паловы лета?

**Алеся Пярова, спецыяліст па апрацоўцы прававых дакументаў, Маладзечна:**
– Нічога запамінальнага не адбылося.

**Наталля Шаўчэнка, не працуе, Вілейка:**
– Падзеі, якія звязаны з выбарамі прэзідэнта.

**Сяргей Шардыка, прадпрымальнік, Маладзечна:**
– Сутычка людзей з АМАПам у Маладзечне 19 чэрвеня.

**Крысціна Арцюкевіч, швачка, Маладзечна:**
– Пакуль нічым не запомнілася.

**Таццяна Рак, агент па дэкларацыі, Маладзечна:**
– Мой адпачынак.

**Юлія Ярош, настаўнік-дэфектолаг, Маладзечна:**
– Першы ўласны ўраджай.

**Вольга Леановіч, інжынер, Маладзечна:**
– Сабрала першы ўраджай лаванды ў сябе на ўчастку, спадзяюся, што будзе лавандавае поле ў Вілейскім раёне.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№29 (1316) 17.07.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1174. Падпісана ў друк у 9.00 16.07.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.